*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 47 (207)

23 лістапада 1994 г.

Кошт — 40 рублёў

**ХАДЖЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ ПА ПАКУТАХ У МАСКВЕ.** *Стар. 3.*

**ХТО З ТРОХ БРАТОЎ ЛЕПШЫ?** *Стар. 5.*

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **11 ЛІСТАПАДА Ў МАСКВЕ АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ** з кіраўніком урада Расійскай Федэрацыі Віктарам Чарнамырдзіным. Былі абмеркаваны актуальныя пытанні двухбаковага эканамічнага супрацоўніцтва. Бакі пацвердзілі сваё прынцыповае імкненне да інтэграцыі, стварэння адзінай эканамічнай прасторы.

○ ***ПА СТАТЫСТЫЧНЫХ ДАДЗЕНЫХ ВЫЛІЧАЛЬНА-АНАЛІТЫЧНАГА ЦЭНТРА,*** *у сістэме Міністэрства адукацыі і навукі на сённяшні дзень налічваецца 3 тысячы 140 школ, у якіх выкладанне вядзецца на беларускай мове. Гэта значыць, што 313 тысяч 132 вучні стала вывучаюць родную мову. 162 тысячы 751 чалавек у 236 школах (летась было 257 школ) аддалі перавагу рускамоўнаму навучанню. У 1482 «змешаных» школах урокі вядуцца для 305 тысяч 270 чалавек на беларускай мове і рускай. Словам, яшчэ вельмі далёка да поўнай беларусізацыі школ нашай краіны.*

○ **МАРЫУШ МАШКЕВІЧ НАЗНАЧАНЫ КОНСУЛАМ РЭСПУБЛІКІ ПОЛЬШЧА Ў ГРОДНЕ**. Раней ён займаў пасаду намесніка Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла сваёй краіны ў Літоўскай Рэспубліцы.

○ ***У АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ ПРАЙШЛА*** *навуковая сесія «Беларусь і гістарычны лёс народа і культуры». Рэпартаж з навуковай сесіі «НС» змесціць у бліжэйшым нумары.*

○ **ПА ЗАПРАШЭННЮ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ ЛІТВЫ, АСАЦЫЯЦЫІ ЛІТОЎСКІХ БЕЛАРУСАЎ, ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ЛІТВЫ Ў ВІЛЬНІ ГАСЦЯВАЎ НАРОДНЫ ПІСЬМЕННІК БЕЛАРУСІ ВАСІЛЬ БЫКАЎ**. Ён правёў шэраг сустрэч з беларусамі, якія жывуць у Літве. Пісьменніку было зададзена шмат пытанняў. На пытанне наконт геаграфічных і гістарычных спрэчак паміж Літвой і Беларуссю Васіль Быкаў сказаў, што іх трэба вырашаць толькі пасля ўсталявання ў абедзвюх краінах сапраўднай дэмакратыі, а пакуль на гэтую тэму няхай спрачаюцца вучоныя і гісторыкі.

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**Да канца падпісной кампаніі на беларускую перыёдыку на першае паўгоддзе 1995 года засталося ўсяго толькі два дні. Калі вы яшчэ не падпісаліся на «Наша слова», то зрабіце гэта сёння. Кошт падпіскі на паўгоддзе: 1050 рублёў; на тры месяцы: 525 рублёў; на месяц: 175 рублёў. Індэкс 63865. Не пашкадуйце грошай на падпіску не толькі сабе, але сваім сябрам, суседзям, супрацоўнікам.**

**БЕЛАРУСКІ ЧАС У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ**

## ДЗЯДЫ

*Мільёны свечак асвяцілі край,*
*Каб душы продкаў бачылі ізноў,*
*Што помнім іх і нашая любоў —*
*Адзіны існуючы ў свеце рай.*

*Мы молімся, мы плачам, мы маўчым.*
*Праз гэтае жыццё свае крыжы,*
*Нясём, нібы ратунак для душы,*
*І ў вечнасць адлятаем, нібы дым.*

*Мільёнам свечак цэлы дзень гарэць,*
*І нам глядзець у свет, куды ляцім,*
*Дзе месца ёсць, было і будзе ўсім,*
*Дзе нам усіх любіць і разумець.*

**Віктар ШНІП.**

**На здымку:** 2 лістапада. Гараць свечкі ля часовай каплічкі ля будынка былога НКВД.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ.**

**Працяг фотарэпартажу з Дзядоў на 2-й старонцы.**

*У ГАЗЕТАХ*

## Смех — не грэх, была б карысць

Пад такой назвай у рубрыцы «Іншае меркаванне» менская гарадская газета дэмакратычнага накірунку «Добры вечар» (№ 203) змясціла аналітычны роздум Валянціна Лягезы. Матэрыял мае красамоўны падзагаловак: «Востры прыступ крыўды за дзяржаву». Аўтар спрабуе па-новаму асэнсаваць вядомы артыкул «Краіна агуркоў» (газета «Известия», № 169, 3 верасня г.г.), у якім была адкрыта выказана абраза нашай дзяржаве і яе Прэзідэнту.

В.Лягеза падкрэслівае, што згаданая публікацыя «Известий» напісана «непрафесійна, неахайна», яна поўная «нетактоўнасці, некарэктнасці». З падобнымі ацэнкамі артыкула «Известий» беларускія дэмакратычныя газеты аператыўна выступілі яшчэ ў першай палове верасня. А В.Лягеза, спыніўшыся на істотных хібах і агульным здзеклівым тоне «Краіны агуркоў», вымушаны пагадзіцца: яе аўтары шмат у чым сапраўды мелі рацыю, калі далёка не беспадстаўна жорстка высмейвалі лад жыцця цяперашняга беларускага грамадства. Ён лічыць таксама, што на Беларусі дагэтуль няправільна разумеюць назву гэтага артыкула, у якой тут убачылі аналогію «бананавай рэспублікі». На думку аўтара «Добрага вечара», назву, якая вельмі дакладна ілюструе стан спраў у нашай дзяржаве, трэба чытаць: «Краіна дурняў».

Далей В.Лягеза падкрэслівае, што такая сумная выснова напрошваецца сама сабой: як яшчэ можна назваць краіну, якую «мудрае» кіраўніцтва аж тры доўгія гады ўпарта і настойліва цягнула ў бездань! Замест рашучых рыначных рэформаў кебічаўскае кіраўніцтва карміла народ байкамі наконт так званай адзінай рублёвай зоны і бескарыслівай дапамогі беларусам ад «старэйшага брата». І толькі Беларускі народны фронт, піша аўтар, цвёрда выказаўся, што Расіі зараз не да нас, бо сваіх турбот поўны рот. Аўтар лічыць, што ва ўзаемаадносінах з Беларуссю расіяне вадзілі нас за нос, як несвядомых немаўлят, і ажыццяўлялі ўсё, што толькі для іх мае прамую выгаду.

У якасці прыкладаў вынікаў згубніцкай палітыкі беларускага ўрада ў міждзяржаўных стасунках з усходнім суседам В.Лягеза прыводзіць тое, што за расійскую нафту мы плацілі па цэнах, якія перавышаюць сусветныя. Пры гэтым беларусы нічога не бралі за транзіт расійскіх нафты і газу праз уласную тэрыторыю, не бралі платы за знаходжанне расійскіх войскаў на нашай зямлі (іх, дарэчы, тут колькасна больш за беларускіх вайскоўцаў). Такім чынам, у расіян ёсць падставы з'едліва смяяцца над беларусамі. Ніжэй аўтар дадае, што такому ўспрыманню нас спрыяе таксама і пагардлівае стаўленне часткі народных дэпутатаў, іншых функцыянераў беларускай улады розных узроўняў да галоўных сімвалаў дзяржаўнай атрыбутыкі Рэспублікі Беларусь: герба, сцяга, дзяржаўнай мовы. Дзе, у якой краіне, піша ён, галава дзяржавы размаўляе са сваім народам, прадстаўнікамі іншых краін на замежнай мове? Толькі ў Індыі і на Беларусі... Аляксандр Лукашэнка, сын патомных беларускіх сялян, які ўсе свае сорак гадоў пражыў на Радзіме, упарта адмаўляецца ад роднай мовы. Такой знявагі да сваёй Бацькаўшчыны, заўважае аўтар, днём з агнём не адшукаць.

Ён выказвае ўдзячнасць аўтарам артыкула «Краіна агуркоў», бо ёсць надзея, што, магчыма, менавіта жорсткая сатыра збоку падштурхне нас да канкрэтных учынкаў, што якраз яна абудзіць нашу нацыянальную годнасць і гэта, урэшце, паспрыяе абуджэнню беларускай нацыянальнай свядомасці. Значыць, смех у дадзеным выпадку — не грэх, была б з яго толькі карысць...

Застаецца пашкадаваць, што гэты цікавы і змястоўны артыкул, у якім закранаюцца набалелыя праблемы нацыянальнага жыцця Рэспублікі Беларусь, двухмоўны «Добры вечар» чамусьці надрукаваў не на дзяржаўнай мове.

М.В.

# *Мільёны свечак асвяцілі край*

* * *

***Аддамо дань нашых сэрцаў, памяці і болю на гэтым месцы за ўсіх замучаных, за ўсіх памерлых нашых братоў і сёстраў, за ўсіх на Беларусі, за каго моляцца ў кожнай святыні сёння аб вечным спачыванні...***

***Хай не будзе дарэмнай тая ахвяра, няхай на зьлітай іх крывёй зямлі закрасуе братняя любоў і свеціць сонца волі і шчасця народу, а іх саміх залічы, Госпадзі, у лік сваіх шчаслівых слугаў. Яны цярпліва прайшлі цярністы шлях жыцця, сваёй смерцю далі сапраўднае сведчанне святасці свайго найбольшага прыказання — прыказання любові. Не адкінь гэтай іхняй ахвяры, а прымі яе паводле сваёй вялікай міласэрнасці, даруй ім грэшныя правіны, умысныя і няўмысныя, і супакой душы іх у вечнай славе сваёй, дзе спачываюць усе святыя. Хай цешацца шчаслівым аглядданнем цябе праз векі вечныя. Амінь.***







**На здымках:**

1. Дзень памяці ў Курапатах.
2. Хвіліна маўчання.
3. Фотаздымак і даведка аб смерці з запісам: расстраляны. Колькі лёсаў бязвінных ахвяр яшчэ хаваюць архівы!

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, Белінфарм.**

**У беларусаў гэты дзень не толькі дзень памінання нашых продкаў, а сапраўды Дзень памяці. Дзень памяці таго, што продкі ў нас былі і што мы ёсць дзякуючы ім. Таму што людзі на гэтай зямлі жылі да нас, гаварылі на нашай мове, працавалі, абраблялі зямлю, будавалі хаты, гадавалі дзяцей і толькі таму мы ёсць. І гэта вельмі добра, што такое свята захавалася на нашай зямлі. Яно, Дзяды, яшчэ важнае і таму, што толькі з-за Памяці мы сцвердзіліся як нацыя, як народ. Прыгадайце, нам ужо не давалі помніць, хто мы такія; нас застаўлялі забыцца, што мы завёмся беларусамі; нас застаўлялі забыцца, што мы маем гісторыю; нас прымушалі забыць нашу мову. Успомніце, на Дзяды колькі гадоў таму ўзнік шырокі рух народнага пратэсту супраць існуючага рэжыму, у Курапатах адрадзіўся Дзень памяці, адбылося яднанне душ продкаў з душамі жывых і тое, што гэты рух узнік, мы бачым з вамі на кожным святкаванні нашых нацыянальных дат. На жаль, дзяржава яшчэ не стала нацыянальнай. Дзяржавы няма на нацыянальных святах. Сёння няма афіцыйных яе прадстаўнікоў на нашай сённяшняй сустрэчы — ні з Вярхоўнага Савета, ні ад Прэзідэнта. Мы павінны памятаць, што наша дзяржава, каб стаць дзяржавай для народа, павінна яшчэ прайсці працэс ачышчэння...**

***Весткі з Бялыніч***

## Хто лепей ведае свой родны кут?

На чарговым пасяджэнні рада Бялыніцкага раённага аддзялення рэспубліканскага ТБМ імя Ф.Скарыны прыняла рашэнне аб правядзенні завочнай краязнаўчай канферэнцыі школьнікаў раёна і навучэнцаў мясцовага СПТВ-217 на тэму: «Мой родны кут». Прадоўжыцца яна з 1 лістапада па 15 снежня, вынікі яе падвядзе спецыяльна ўтворанае журы і ўручыць аўтарам лепшых навуковых работ пра гісторыю, культурную спадчыну роднага кута каштоўныя падарункі.

Фундатарамі конкурсу выступілі савет працоўнага арэнднага прадпрыемства «Аграсервіс», калектыў агракансорцыума «Друць».

## Тыдзень беларускай культуры

З 17 па 21 кастрычніка супрацоўнікі Бялыніцкай цэнтральнай бібліятэкі сумесна з сябрамі раённага аддзялення ТБМ імя Ф.Скарыны правялі тыдзень беларускай культуры. Структурна праграма тыдня падзялялася на часткі: дзень нацыянальнай літаратуры, дзень народнай творчасці, дзень беларускага мастацтва і інш.

Пачаўся тыдзень днём нацыянальнай мас-медыя, які ўключаў у сябе вернісаж беларускай перыёдыкі, агляд часопісаў «Беларуская мінуўшчына», «Спадчына», «Гістарычны часопіс Беларусі», «Гаспадыня», газеты «Наша слова».

Адметна і запамінальна прайшоў дзень беларускай літаратуры, які даў старт на бялыніцкай зямлі «Каласавінам». Прайшлі яны ў чытальнай зале райбібліятэкі, дзе адбылася сустрэча старшакласнікаў СШ № 1 райцэнтра з заслужаным дзеячам культуры Рэспублікі Беларусь, сябрам рады раённага аддзялення ТБМ В.І.Ермаловічам. У выкананні Валянціна Іванавіча прагучала літаратурная кампазіцыя па паэме Я.Коласа «Новая зямля», адказаў ён і на шматлікія пытанні школьнікаў.

Да дня беларускай літаратуры ў райбібліятэцы былі разгорнуты шматлікія выставы, прагучала гадзіна паэтычнага слова.

Шмат прыхільнікаў сабраў і дзень народнай творчасці. Былі аформлены змястоўныя выставы «Нам засталася спадчына», «Рук залатых зямныя цуды». На апошняй прадстаўляліся вырабы народных умельцаў райцэнтра, праведзена сустрэча з вядомай бялыніцкай майстрыхай Н.Т.Манькоўскай.

У рамках гэтага дня адбылася сустрэча з кіраўніком народнага фальклорнага ансамбля «Бялыніцкія музыкі» В.Халадцовым.

## Семдзесят пяць пытанняў

Акрамя пашырэння ўжытку беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця раёна, захавання чысціні і самабытнасці матчынага слова, сябры Бялыніцкага раённага аддзялення ТБМ імя Ф.Скарыны вялікую ўвагу надаюць вывучэнню мінуўшчыны роднага краю. Рада раённага ТБМ з'явілася ініцыятарам і заснавальнікам краязнаўчых чытанняў, якія праводзяцца штогод пры актыўнай дапамозе тэбээмаўцаў, адроджана і раённае краязнаўчае Таварыства.

Сябры рады раённага ТБМ падрыхтавалі да друку брашуру «75 пытанняў і адказаў з гісторыі Бялыніцкага раёна». Некаторыя з іх пабачылі свет на старонках раённай газеты. Аднак выданне гэтага карыснага і патрэбнага дапаможніка асобнай брашурай застаецца справай надзвычай праблематычнай. Адсутнічаюць грашовыя сродкі, не знаходзіцца і фундатараў. Менавіта па гэтай прычыне дагэтуль яшчэ не пабачыў свет і дапаможнік для настаўнікаў і вучняў школ раёна «Наш край», аўтарамі некаторых раздзелаў якога з'яўляюцца сябры раённай арганізацыі ТБМ.

Але, нягледзячы на гэтыя цяжкасці, прыхільнікі беларускага слова і нацыянальнай культуры па-ранейшаму актыўна прапагандуюць матчына слова, нацыянальную культуру, адкрываюць забытыя і невядомыя старонкі з мінуўшчыны прыдруцкага краю. На сумесным пасяджэнні раённых рад ТБМ і краязнаўчага Таварыства абмеркаваны план правядзення і арганізацыйна-тэхнічныя мерапрыемствы трэціх раённых краязнаўчых чытанняў, якія маюць адбыцца ў сакавіку будучага года.

**Міхась КАРПЕЧАНКА.**

*Маскоўскае Таварыства беларускай культуры імя Ф.Скарыны распаўсюдзіла адкрыты ліст «Гісторыя станаўлення сучаснай маскоўскай беларускай дыяспары ў свеце расейска-беларускіх дачыненняў», у якім, у прыватнасці, гаворыцца:*

# Хаджэнне беларускай дыяспары па пакутах у Маскве

«У 1988-1991 гадах маскоўскія нацыянальныя дыяспары атрымлівалі памяшканні пад культурныя цэнтры, школы, дзіцячыя садкі і нават тэатры ад расейскіх і маскоўскіх улад. Механізм гэтага атрымання быў даволі просты: да маскоўскае мэрыі звяртаўся ўрад краіны, саюзнай ці аўтаномнай рэспублікі, напрамкі ці праз сваё пастпрэдства (пасольства). У выніку адпаведнае таварыства атрымлівала і памяшканні, і дапамогу. Напэўна, тагачасны ўрад БССР ніяк не мог зразумець, што ў свеце ёсць нейкія беларусы і ў іх ёсць культурныя патрэбы. А калі нават штосьці і падпісваў, як напрыклад, пагадненне 1990 года аб беларускіх школах у Расейскай Федэрацыі за подпісам Дземчука, то сачыць за выкананнем гэтага пагаднення ніяк не збіраўся, бо не дай Бог пакрыўдзіць «старэйшага брата», які такі заўзяты інтэрнацыяналіст на чужых прасторах і такі моцны нацыянал-шавініст у сябе дома. Пастпрэдства БССР у Маскве на чале з В.Даніленкам з паталагічна-адмоўным стаўленнем да ўсяго беларускага было найгоршым адбіткам гэтага ўрада. Калі ў складзе Пастпрэдства няма гэтых беларусаў, так іх не павінна быць і ў Расеі. І гэта ў той час, калі ўсе пастпрэдствы ці пасольствы, маючыя ў Расіі свае дыяспары, як мінімум, выдзелілі часовыя памяшканні і стаўкі! Сябры Рады ТБК, тагачасны ганаровы старшыня Алесь Адамовіч, звярталіся ў розныя ўрадавыя ўстановы, у мэрыю і Массавет, але безвынікова.

Усё ж такі на аснове рашэння Масгарвыканкама № 2022 ад 23 верасня 1988 года «О передаче в аренду Постпредству БССР помещений в строениях 2в, г; 3а, б; 4; по улице Богдана Хмельницкого, 17/6 для размещения культурного и торгового центров, общей площадью 4110 кв.м» Пастпрэдству Масгараддзелам па нежылых памяшканнях быў выдадзены ордэр № 050946 ад 24 кастрычніка 1988 года. Але ордэр быў выдадзены Пастпрэдству, а не Таварыству беларускай культуры, а таму, вядома, у гэтай установе не надта імкнуліся атрымліваць гэтыя будынкі, каб побач з будынкам Пастпрэдства не з'явіліся раптам беларусы. Хутчэй за ўсё чыноўнікі з пастпрэдства ўспрымалі беларускамоўных сяброў ТБК, сярод якіх было даволі шмат кандыдатаў і дактароў навук, спецыялістаў у розных галінах, у тым ліку з дыпламатычнай адукацыяй, як магчымых канкурэнтаў. Цікава зазначыць, што хутка ў гэтых будынках сталі з'яўляцца камерцыйныя фірмы, у тым ліку і камерцыйны банк... Рада ТБК у 1992-1994 гадах працягвала ставіць пытанне аб беларускім культурным цэнтры і беларускай школе пры ім перад расейскімі ўладамі, звяртаючыся ў мэрыю, Мінадукацыі РФ, МЗС РФ, да Прэзідэнта РФ Б.М.Ельцына. У рэшце рэшт Маскаммаёмасці ад 26 красавіка 1994 года за подпісам першага намесніка старшыні камітэта Авекава дае адказ: «...Комитет считает возможным размещение Центра и школы на площадях, переданных Постпредству (ныне Посольству) Республики Беларусь решением Мосгорисполкома от 23.09.88 г. № 2022 по ул.Маросейка, 17/6 под размещение культурного и торгового центров республики, по согласованию с Посольством». Атрымалася замкнёнае кола са шматлікімі «цікавымі» пытаннямі. Расійскія ўлады спасылаюцца, што ўжо як быццам і выканалі свой мінімальны абавязак перад беларускамоўнымі грамадзянамі: выдзелілі Пасольству РБ памяшканне менавіта пад культурны цэнтр і школу, карыстацца якім магчыма «по согласованию с посольством». Маскоўскія ўлады, напэўна, правільна разумеюць ролю Пасольства як яднаючай сілы, культурнага асяродка той краіны, якую яно прадстаўляе. Але ж гэта не наш выпадак. Пасольства РБ не толькі не збіраецца неяк папулярызаваць беларускую культуру ў Расеі ці дзяліцца плошчай з Таварыствам беларускай культуры (якое магло б Пасольству дапамагчы), а нават ліст Маскаммаёмасці, які нагадваў аб выдзеленых для культурнага цэнтра памяшканнях, накіраваны сябрам Рады ТБК на адрас пасольства, палічылі за лепшае Таварыству не паказваць, і Маскаммаёмасці была вымушана накіраваць ліст паўторна ўжо на хатні адрас сяброў Рады. Дарэчы, тое ж адбывалася і з іншымі паперамі, накіраванымі Таварыству культуры на адрас Амбасады.

Пасля падаўлення путча ў жніўні 1991 года з дапамогай спадара С.С.Шушкевіча, які і раней бываў у гасцях у маскоўскіх беларусаў, ТБК атрымала ў будынку Пастпрэдства часовы пакой з тэлефонам. У хуткім часе шмат хто з маскоўскіх беларусаў ведаў, што па аўторках і серадах у гэтым пакоі можна атрымаць апошнія беларускія газеты і часопісы, навіны, прыняць удзел у працы адной з секцый ТБК, даведацца аб наступным канцэрце беларускіх майстроў, паслухаць лекцыі па гісторыі, культуры і мове і шмат чаго іншага. У 1992 колькасць сяброў ТБК перавысіла пяць соцень і сталі ўсталёўвацца сувязі з іншымі беларускімі арганізацыямі ў Расеі і за яе межамі. Стаўленне ж расейскіх улад да ТБК, пачынаючы з 1992 года, рэзка змянілася: «У вас цяпер ёсць свая дзяржава — Рэспубліка Беларусь — хай яна пра вас і клапоціцца». Свая ж дзяржава, у выглядзе Амбасады РБ у Расейскай Федэрацыі (былое Пастпрэдства з тымі ж людзьмі), ледзь цярпела беларусаў на сваёй тэрыторыі. Праца ТБК праходзіла на фоне: «Убирайтесь вон в свою Белоруссию..; не говорите здесь по-белорусски..; надоели эти белорусы...», аб чым раней шмат паведамлялася ў беларускім друку праз артыкулы і заявы маскоўскіх беларусаў. Застаецца толькі шкадаваць, што ў складзе Таварыства культуры (у яго склад уваходзяць людзі з рознымі палітычнымі поглядамі) у той час не было былога прэм'ера Кебіча або сучаснага Прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі, бо такое «фэйсам аб тэйбл» даволі карысна ўплывае на любоў да «старэйшага брата». Пасол Даніленка ў адказ на скаргі заявіў, што не дазволіць беларусам праводзіць тут кадравую палітыку. Пры гэтым супрацоўнікі беларускай амбасады (а яны пераважна небеларусы) нават не з'яўляюцца грамадзянамі Беларусі (адзін з вядучых дыпламатаў: «Если начнут заставлять брать белорусское гражданство, придется искать новую работу...»). Гэта нонсенс. Сапраўды Беларусь — унікальная краіна.

У 1993 годзе ў беларуска-расейскіх дачыненнях падзьмулі новыя ветры: «эканамічны хаўрус» і «рублёвая зона». Беларуская палітыка ўсё болей вызначалася асабістымі стасункамі Кебіча з прэм'ерам Расеі. Менавіта таму памяшканне ТБК было занята на 8 месяцаў скрынямі з амерыканскім медыцынскім абсталяваннем «чарнобыльскай дапамогі», а пасля скаргі дэлегацыі ТБК у Менску на недапушчальнасць такога стаўлення памяшканне было зусім адабрана, нягледзячы на дамову аб арэндзе. У жніўні 1993 года пасол заявіў, што цяпер можаце скардзіцца куды ўгодна, нічога не атрымаеце, бо змяніўся стан. І сапраўды так, бо ў Маскве, у Даніленкі, Кебіч праводзіў больш часу, чым у Менску. Шматразовыя скаргі ў МЗС РБ, сустрэчы са спадаром Краўчанкам і абяцанні дапамогі з яго боку нічога не далі, хутчэй за ўсё быў яму Даніленка не падуладны. Пасля адстаўкі С.С.Шушкевіча Амбасада прыпыніла ўсякія кантакты з дыяспарай. Ідэі «зоны» ўзмацняліся...

Пачынаючы з канца 1993 года, ТБК было вымушана прыстасавацца да новых «падпольных» умоў у сваёй працы: для вялікіх сходаў усяго ТБК і канцэртаў з нагоды святочных дат за свой кошт арэндуюцца канцэртныя залы, праца Рады і секцый ТБК адбываецца на кватэрах, лецішчах і ў іншых памяшканнях. Арэндаваць жа цяпер памяшканне ў цэнтры Масквы стала немагчыма: кошт арэнды вышэйшы за кошт у Лондане і Парыжы. Тым не менш па-ранейшаму выходзіць бюлетэнь ТБК — «Шляхам Скарыны», а пачынаючы з 1994 года, на радыёканале «Эхо Москвы» за кошт ТБК стала выходзіць 15-хвілінная перадача на беларускай мове. За свой кошт ТБК запрашае артыстаў з Беларусі. І тым не менш адсутнасць сталай «кантактнай» штаб-кватэры ТБК моцна ўдарыла па маскоўскай беларускай дыяспары: спіс сяброў ТБК за апошні год павялічыўся толькі на 7 чалавек. Нам стала вядома, што людзі, звяртаючыся ў Амбасаду ў пошуках Таварыства, з вуснаў в.а. саветніка па культуры, грамадзянкі Расеі Мінайлавай Р.Е. чуюць адказ: «Не знаем мы никаких белорусов, никакого Общества белорусской культуры...», але ж да адстаўкі С.С.Шушкевіча яна сама была ў спісах сяброў ТБК. Адной з акцый пратэсту супраць рублёвай зоны, так дрэнна ўплываючай на стан дыяспары, і змагання за свае правы было пікетаванне Амбасады РБ у РФ, праведзенае сябрамі ТБК на пачатку сакавіка 1994 года з дазволу маскоўскіх улад.

Сябры ТБК імя Ф.Скарыны заўсёды пільна сачылі за падзеямі на Беларусі, і таму пасля абрання першага Прэзідэнта Беларусі Лукашэнкі А.Р. Рада ТБК даслала некалькі факсаў у Менск з просьбай аб сустрэчы ў Менску або ў Маскве, але адказу пакуль не атрымала. Спроба сяброў Рады ТБК трапіць на прэс-канферэнцыю Лукашэнкі ў Маскве (у памяшканні Амбасады) поспеху не мела, нягледзячы на тое, што дакладна ведалі час прэс-канферэнцыі, бо супрацоўнікі Амбасады не жадалі гэтае сустрэчы...

У заключэнне трэба дадаць, што арганізаваная беларуская дыяспара ў Маскве і іншых месцах Расеі нікуды не знікне, як бы таго ні жадалі пэўныя колы ў Расеі і на Беларусі, нягледзячы на ўсе перашкоды, на тое, што шмат актыўных сяброў ТБК ужо пераехала жыць на Беларусь, а хтосьці памёр. ТБК у Маскве будзе жыць і адраджацца, тым болей, што ў Расеі жыве больш за мільён беларусаў. Станаўленне ж добра арганізаванай, моцнай беларускай дыяспары ў Расеі, у якіх сэрца баліць за Бацькаўшчыну, было б карысным перш за ўсё для самой Беларусі і палітычна, і эканамічна».

*Філалогія*

# НЕМЦЫ АДДАЮЦЬ ПЕРАВАГУ РЭАЛІЗМУ

*Гутарка з кандыдатам філалагічных навук, выкладчыкам дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта А.І.Букаевым*

**— Аляксандр Іванавіч, як даўно Вы зацікавіліся нямецкай літаратурай?**

— З дзяцінства. Я нарадзіўся ў невялічкай вёсцы на Волзе, у якой было шмат немцаў. Спачатку зацікавіўся нямецкай мовай, а потым у школе — і літаратурай. У 1953 годзе паступіў у Ленінградскі універсітэт на філалагічны факультэт. Пачаў вывучаць замежную літаратуру. У нас на курсе выкладалі вядомыя спецыялісты ў галіне нямецкай літаратуры. Пасля трэцяга курса я канчаткова вырашыў заняцца германістыкай. З тых самых часоў і працую ў гэтай галіне. Напісаў шэраг навуковых прац, а таксама выдаў працу ў трох тамах пад назвай «Гісторыя нямецкай літаратуры».

**— У аснову якой Вы паклалі вынікі сваіх навуковых даследаванняў?**

— Так. Разглядаецца гісторыя нямецкай літаратуры ад яе вытокаў да сучаснасці. У асноўным жа мяне цікавіла літаратура XVIII стагоддзя.

**— Аляксандр Іванавіч, для развіцця літаратуры любога народа існуе пэўны фундамент. Скажам, у амерыканскай літаратуры такім фундаментам з'яўляецца Біблія. А што служыць асновай нямецкай літаратуры?**

— Трэба сказаць, што яна існавала ў рамках сярэднявечнай заходнееўрапейскай літаратуры. Яна была ва ўсім падобнай на літаратуру Англіі, Італіі і г.д. У XIII стагоддзі сярэднявечная нямецкая літаратура дасягнула свайго росквіту. Вольфганг фон Эшэнбах, Хартман фон Ауэ, Готфрыд фон Штрасбург унеслі значны ўклад у яе развіццё. З самых вядомых твораў гэтага перыяду трэба назваць раман Хартмана фон Ауэ «Бедны Генрых» і адзін з найлепшых у сусветнай літаратуры любоўных раманаў — раман Штрасбурга «Трыстан і Ізольда».

**— А плыні, як яны ўзнікалі?**

— Паколькі развіццё адбывалася ў рамках агульнаеўрапейскай літаратуры, то ўсе плыні, характэрныя для англійскай, французскай, італьянскай і іншых літаратур, былі характэрны і для германскай. У XVII стагоддзі — класіцызм, барока, рэнесансны рэалізм; у XVIII стагоддзі — класіцызм, сентыменталізм і рэалізм. На мяжы XVIII—XIX стагоддзяў у нямецкай літаратуры сфармаваўся рамантызм, які пазней распаўсюдзіўся па ўсёй Еўропе. У сярэдзіне XIX стагоддзя і нават некалькімі стагоддзямі раней пачаў фармавацца рэалізм, які працягвае развівацца і цяпер.

**— А мова літаратурных твораў?**

— У іх аснове ляжыць жывая нямецкая мова. Асабліва, калі твор напісаны ў рэалістычнай традыцыі. Пісьменнік, імкнучыся паказаць жыццё праўдзіва, стварае і адпаведныя вобразы. Героі раманаў размаўляюць на жывой нямецкай мове. Гісторыя нямецкай літаратуры вельмі цесна звязана з развіццём нямецкай мовы.

**— А дыялекты?**

— У нямецкай літаратуры існуе цэлы пласт дыялектнай літаратуры. Такія вядомыя нямецкія аўтары, як Фрыц Рэйтар, Клаус Грот, пісалі на «Plattdeutch», а менавіта паўночнагерманскіх дыялектаў. Іх творы займаюць вельмі значнае месца ў гісторыі нямецкай літаратуры. Дыялектная літаратура ў Германіі больш развіта, чым у Расіі. Гэта тлумачыцца тым, што ў Германіі дыялекты вельмі моцна адрозніваюцца адзін ад другога. У германскіх тэрытарыяльных землях і цяпер жывуць і працуюць пісьменнікі, якія карыстаюцца дыялектамі сваёй роднай зямлі.

**— А нацыянальны характар твораў?**

— Галоўныя героі кніг — гэта немцы, носьбіты нацыянальнага характару. Нацыянальныя рысы, характэрныя для немцаў, знаходзяць адэкватнае адлюстраванне ў літаратуры. Бываюць выпадкі, калі аўтары спрабуюць паказаць замежнае жыццё, але гэта адбываецца вельмі рэдка.

**— І якія накірункі, скажам, у прозе, найбольш характэрныя?**

— Для нямецкіх пісьменнікаў, асабліва 50-х, 60-х, 70-х гадоў, характэрны жанр рамана выхавання асобы. Ён карыстаўся асаблівай папулярнасцю. У цэнтры рамана стаяла якая-небудзь асоба, і далей прасочвалася яе развіццё з дзяцінства да сталага ўзросту або нават да смерці. Прасочвалася таксама сувязь паміж развіццём асобы і развіццём чалавечага грамадства ў цэлым.

**— Даводзілася чытаць, што немцам усё ж надакучыў рэалізм?**

— Мадэрнісцкія плыні мелі месца ў 50-х, 60-х, 70-х гадах. Цяпер іх адціснуў рэалістычны накірунак літаратуры. На першым плане стаяць раманы і аповесці, аўтары якіх імкнуцца асэнсаваць жыццё іменна сродкамі рэалізму.

**— Гэта не пярэчыць сусветнай накіраванасці літаратурнага працэсу?**

— Існуюць неразрыўныя сувязі паміж нямецкай і іншымі літаратурамі свету, паколькі нямецкі народ не жыве ізалявана ад іншых народаў. На нямецкую мову перакладаецца шмат твораў з іншых літаратур. Гэта аказвае ўплыў на пісьменнікаў Германіі.

**— Як Вы лічыце, а беларускія чытачы дастаткова знаёмыя з сучаснай літаратурай Германіі?**

— У нас ёсць выдатныя перакладчыкі літаратурных твораў з нямецкай мовы на беларускую. Сярод іх Васіль Сёмуха, Лявон Баршчэўскі, Мікола Навіцкі, нябожчык Язэп Семяжон. Яны добра вядомы нашым чытачам. Хачу выказаць пажаданне, каб беларусы з большай цікавасцю ставіліся да нямецкай літаратуры, асабліва сучаснай, літаратуры аб'яднанай Германіі, дзе вырашаецца цяпер шмат праблем. Было б вельмі добра, каб беларусы пазнаёміліся як з гэтымі праблемамі, так і са спосабамі іх вырашэння ў мастацкім сэнсе.

**— Дзякую, Аляксандр Іванавіч, што знайшлі час для гутаркі. Жадаю Вам новых поспехаў у навукова-педагагічнай дзейнасці.**

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

У.А.ПАЛУЯН

# БЕЛАРУСЫ: ЖЫЦЦЁ Ў СКЛАДЗЕ ПОЛЬШЧЫ

## (Заходняя Беларусь у 1921—1939 гг.)

*(Працяг. Пачатак у № 45-46.)*

У 1935—1937 гг. узмацнілася барацьба працоўных супраць палітычнага бяспраўя, рэакцыйнай канстытуцыі, за дэмакратычныя правы. На Заходняй Беларусі амаль палова выбаршчыкаў не ўдзельнічала ў парламенцкіх выбарах верасня 1935 г. Працоўныя патрабавалі вызвалення палітычных зняволеных, ліквідацыі канцлагера ў Бярозе-Картузскай. Урад вымушаны быў вызваліць з турмаў частку палітзняволеных.

Развіццё руху за стварэнне антыфашысцкага народнага фронту, рост грамадска-палітычнай актыўнасці інтэлігенцыі садзейнічалі ўзмацненню барацьбы за нацыянальнае вызваленне. Асноўная ўвага была звернута на разгортванне барацьбы за нацыянальныя правы.

Да сярэдзіны 30-х гадоў у Заходняй Беларусі большасць нацыянальных груповак распалася. Правальваліся спробы Ф.Акінчыца і В.Казлоўскага стварыць Беларускую нацыянал-сацыялістычную партыю. Беларуская хрысціянская дэмакратыя некалькі павялічыла свой уплыў. Так, Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, на які яна абапіралася, у 1934 г. налічваў 80 гурткоў і 1200 членаў. У канцы 1935 г. БХД змяніла сваю назву на Беларускае народнае аб'яднанне і прыняла новую праграму, якая змяшчала буржуазна-дэмакратычныя патрабаванні.

Падобна старой праграме БХД, яна сцвярджала, што грамадскі лад беларускага народа ў цэлым павінен абапірацца на прынцыпы прыватнай уласнасці. БНА ставіла сваёй мэтай дасягненне самастойнасці беларускага народа на ўсіх яго этнаграфічных землях, аб'яднаных у незалежную дэмакратычную (буржуазна-дэмакратычную) рэспубліку.

Пасля рэвалюцыйнага ўздыму 1936—1937 гг. у Заходняй Беларусі, як і ў Польшчы, наглядаўся спад вызваленчага руху. Ён быў выкліканы не толькі ўзмацненнем рэпрэсій у абстаноўцы набліжэння вайны. Адмоўную ролю адыгралі пазіцыі дробнабуржуазных партый. Сталінскія рэпрэсіі і палітычныя судовыя працэсы ў СССР паскорылі іх адыход ад народнага фронту.

Асабліва цяжкія наступствы для вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі меў неабгрунтаваны роспуск у жніўні 1938 г. Выканкамам Камінтэрна Кампартыі Польшчы. Супраць КПП на сфабрыкаваных матэрыялах было высунута ілжывае абвінавачванне ў тым, што яе кіраўніцтва было захоплена агентамі польскіх улад і палітычнай паліцыі (дэфензівы). Кіруючыя дзеячы КПП, КПЗБ, КПЗУ, якія знаходзіліся ў Маскве, Кіеве, Мінску, былі арыштаваны і амаль усе загінулі.

Такім чынам, гісторыя Заходняй Беларусі ў 1921—1939 гг. адзначалася высокім узроўнем рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху, напружанай барацьбой мас за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за ўз'яднанне беларускага народа. Гэтая барацьба аслабляла панаванне польскіх памешчыкаў і буржуазіі. У ходзе яе гартаваліся сілы для рашучых дзеянняў, расла класавая і нацыянальная свядомасць народа, узмацнялася супраціўленне паланізацыі, што спрыяла захаванню беларускай нацыі.

Да 1939 г. небяспека Другой сусветнай вайны навісла над Еўропай. Адказ заходніх дзяржаў ад палітыкі калектыўнай бяспекі не дазволіў стварыць адзіны фронт міралюбівых і дэмакратычных сіл супраць фашысцкай агрэсіі. СССР 23 жніўня 1939 г. падпісаў дагавор з Германіяй аб ненападзе. Дадатковы сакрэтны пратакол да гэтага дагавора, які прадугледжваў ліквідацыю Польскай дзяржавы, раздзел сфер уплыву, з'явіўся грубым парушэннем умоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. і пакта аб ненападзенні паміж Савецкім Саюзам і Польшчай, падпісанага ў 1932 г.

Заключэнне дагавора дало Савецкаму Саюзу пэўны выйгрыш часу для падрыхтоўкі адпору фашысцкай агрэсіі, хоць ён і не быў выкарыстаны належным чынам. У той жа час дагавор дазволіў не дапусціць акупацыі гітлераўцамі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. Гэтым былі створаны ўмовы для ўз'яднання беларускага і украінскага народаў.

1 верасня 1939 г. гітлераўская Германія напала на Польшчу. 3 верасня Англія і Францыя аб'явілі вайну Германіі. Пачалася Другая сусветная вайна. Нямецкія войскі перайшлі граніцу і з некалькіх напрамкаў пачалі рухацца ў глыб краіны. Польскі ўрад і камандаванне арміі не змаглі арганізаваць эфектыўную абарону і на трэцім тыдні пакінулі краіну.

У сярэдзіне верасня нямецкія войскі падышлі да зямель Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. 17 верасня, калі польская армія ў асноўным была разбіта, а тэрыторыя карэннай Польшчы занята нямецкімі войскамі і заставаліся толькі асобныя вузлы супраціўлення, савецкі ўрад аддаў загад Галоўнаму камандаванню Чырвонай Арміі сіламі войск Украінскага і Беларускага франтоў перайсці граніцу.

17 верасня ўранку часці Чырвонай Арміі пачалі свой паход у Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. У першы ж дзень былі вызвалены Баранавічы, 18 верасня — Навагрудак, Ліда, Слонім, 19 — Вільня, Пружаны, 20 — Гродна, 21 — Пінск, 22 — Беласток і Брэст. Пераважная большасць польскіх войскаў здавалася без бою. Толькі асобныя часці і групы аказвалі супраціўленне.

Насельніцтва Заходняй Беларусі сустракала савецкіх салдат з радасцю, як родных братоў, з кветкамі, хлебам-соллю. У гарадах і вёсках праходзілі мнагалюдныя мітынгі, на якіх працоўныя горача віталі сваіх вызваліцеляў. У некаторых месцах пад кіраўніцтвам былых членаў КПЗБ узнікалі ваенна-рэвалюцыйныя камітэты. Яны ствaралі ўзброеныя групы з рабочых і сялян, якія раззбройвалі паліцэйскіх, бралі пад ахову чыгуначныя масты, прадпрыемствы і іншыя аб'екты. У ваяводскіх і павятовых цэнтрах органамі новай народнай улады з'яўляліся часовыя ўправы і сялянскія камітэты. У склад іх уваходзілі прадстаўнікі рабочых, сялянскіх камітэтаў, працоўнай інтэлігенцыі, вызваленыя з турмаў былыя члены КПЗБ, прадстаўнікі Чырвонай Арміі.

Часовыя ўправы і сялянскія камітэты, абапіраючыся на падтрымку мас, устанавілі новы парадак. Для яго падтрымкі ствараліся атрады рабочай гвардыі і сялянскай міліцыі. Сялянскія камітэты дзялілі памешчыцкую зямлю сярод парабкаў і малазямельных сялян. Яны атрымалі 431 тыс. га зямлі, 14 тыс. коней і 33,4 тыс. кароў. У выніку серадняцкая праслойка ў вёсцы павялічылася. Сяляне вызваляліся ад эксплуатацыі з боку памешчыкаў, ад даўгоў банкам і ліхвярам.

Часовыя ўправы бралі на ўлік фабрыкі і заводы, пакінутыя іх уладальнікамі, арганізоўвалі вытворчасць. На астатніх прадпрыемствах былі створаны групы і камісіі, якія ажыццяўлялі кантроль за іх дзейнасцю. Узяўшы на ўлік наяўныя запасы прадуктаў і тавараў, органы новай улады наладзілі забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання і таварамі першай неабходнасці.

*(Працяг будзе.)*



# Са старонак «Динабурга» загучала «Слова беларуса»

**13 кастрычніка ў Генеральным консульстве Рэспублікі Беларусь у горадзе Даўгаўпілсе адбылася прэзентацыя першага нумара беларускай старонкі, якая пад назвай «Слова беларуса» выйшла ў мясцовай гарадской газеце «Динабург». Галоўнага рэдактара «Динабурга» Людмілу Карлаву і яе намесніка Паўла Сянькова віталі консул Рэспублікі Беларусь Анатоль Жалтоўскі, саветнік Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь Аляксандр Важнік, а таксама сябры Рады культурна-асветніцкага таварыства «Уздым» беларусаў Даўгаўпілса, якія, абраўшы рэдкалегію і рэдактара, з'яўляюцца выдаўцамі беларускай старонкі. У першым нумары «Слова беларуса» змешчаны слова на дарогу «У добры шлях» консула А.Жалтоўскага, рэпартаж з адкрыцця Беларускага консульства ў Даўгаўпілсе «Узняўся птахам сцяг...», навіны з Беларусі і іншыя матэрыялы.**

## УЗНЯЎСЯ ПТАХАМ СЦЯГ

Гэтага дня сябры культурна-асветніцкага беларускага таварыства «Уздым» чакалі даўно. Спачатку на Першым з'ездзе беларусаў блізкага замежжа, а затым і на Першым з'ездзе беларусаў свету падымалася пытанне аб адкрыцці ў Даўгаўпілсе Беларускага консульства.

Нарэшце мінулай зімой у Даўгаўпілс на сталую працу прыбыў консул Рэспублікі Беларусь Анатоль Жалтоўскі. На працягу васьмі месяцаў Генеральны консулят Рэспублікі Беларусь размяшчаўся ў адным з кабінетаў гарадской управы. За гэты час былі прыгледжаны асобны двухпавярховы будынак і праведзена вялікая праца па яго рэканструкцыі і капітальным рамонце. Нялёгкую ношу праблем і клопатаў вынеслі супрацоўнікі консульства, арганізуючы работу будаўнічай брыгады, набываючы ўсё неабходнае. І нам, «уздымаўцам», знайшлося дзе прыкласці рукі, асабліва напрыканцы, каб памяшканні і двор з яблыневым садам набылі належны выгляд.

І вось 16 верасня над Генеральным консулятам Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе вялікім птахам узняўся бел-чырвона-белы сцяг, асянюючы мясцовую беларускую дыяспару... Затым у камiннай зале былі падняты бакалы з шампанскім і сказаны добрыя, прачулыя словы консулам А.Жалтоўскім. Прысутных таксама віталі пасол Рэспублікі Беларусь у Латвіі Валянцін Вялічка, намеснік міністра замежных спраў Беларусі Міхаіл Хвастоў, мэр Даўгаўпілса Аляксей Відаўскі, які падараваў консульству карціну пад назвай «Настальгія». Аўтар гэтых радкоў меў гонар сказаць некалькі слоў ад імя тутэйшых суайчыннікаў і прачытаць толькі што складзены верш:

*Як дорга я не дабярuся*
*Наведаць маці-Беларусь,*
*Зайдуся ў гэты двор, у сад,*
*У Беларускі консулят.*
*Тут на сабе бліжэй адчую*
*Айчыны мілае пагляд...*

А пасля госці былі запрошаны ў ДКХ на канцэрт, дзе на працягу гадзіны радавалі ўсіх сваім талентам, чысцінёй і цеплынёй беларускіх народных песень і музыкі гурт Дзяржтэлерадыё Беларусі «Бяседа». Сапраўды, тут не маўчалі сэрцы ўдзячных гледачоў, а вялі шчырую бяседу з сэрцамі артыстаў. І з сэрцам Бацькаўшчыны — ва ўспамінах і марах...

**С.ВАЛОДЗЬКА.**

# З сардэчным болем за Бацькаўшчыну

«Наша слова» (№ 20, 18 траўня г.г.) ужо паведамляла, што пасля даволі доўгага перапынку падпісчыкі ў розных краінах свету атрымалі чарговы, трыццаць восьмы нумар часопіса «Беларуская думка» — аднаго са старэйшых перыядычных выданняў беларускай эміграцыі, якое выходзіць у Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі, ЗША).

Нядаўна наша рэдакцыя атрымала новы, трыццаць дзевяты нумар гэтага грамадска-палітычнага і літаратурна-мастацкага часопіса. Ён адкрываецца дакументамі, якія з розных бакоў асвятляюць ход палітычнай барацьбы на Беларусі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Увагу чытачоў, несумненна, прыцягне і грунтоўны артыкул старшыні Беларускага кангрэсавага камітэта ЗША Расціслава Завістовіча «76-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларусі». Аўтар падкрэслівае, што 25 сакавіка назаўжды застанецца галоўным нацыянальным святам Бацькаўшчыны і ўсіх яе свядомых сыноў, бо менавіта ў гэты гістарычны дзень 1918 года пасля доўгага перапынку была адноўлена незалежнасць Беларусі, беларуская дзяржаўнасць. У артыкуле адзначаецца, што беларуская эміграцыя з году ў год урачыста адзначала гэта вялікае свята, хоць у БССР, як вядома, стаўленне да яго было зусім іншае. Робячы кароткі экскурс у мінулае Беларусі, Р.Завістовіч, у прыватнасці, піша, што дзеля задушэння нацыянальнай свядомасці нашага народа як асобнай нацыі, бальшавікі пайшлі нават далей за сваіх царскіх папярэднікаў-русіфікатараў. Яны насуперак фактам бясконца перакручвалі айчынную гісторыю, ідэалагічна ачмуралі людзей, выкарчоўвалі з ужытку родную мову, закрывалі беларускія школы, выхоўвалі гэтак званых «гомо советикус».

Даволі шырока ў нумары прадстаўлены сучасныя беларускія паэты розных пакаленняў, якія жывуць і працуюць на Бацькаўшчыне: Алеся Грыцкевіч, Ірына Бурдзейка, Міхась Скобла, Святлана Багданкевіч, Уладзімір Паўлаў, Мікола Маляўка, Галіна Вайтовіч. Друкуецца таксама замалёўка Сымона Шаўцова «Цётка Мар'я», напісаная аўтарам у лютым—красавіку 1944 года ў Аўстраліі. Уладзімір Брылеўскі знаёміць чытачоў са сваім літаратуразнаўчым артыкулам «Перачытваючы «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча», у якім ставіць пад сумненне пашыраную сёння думку, што гэты твор выдатнага паэта з'яўляецца польскай нацыянальнай эпапеяй.

З цікавасцю чытаецца ў апошнім нумары часопіса і нататка пра Ірыну Мазылёву — маладую, таленавітую оперную спявачку з Беларусі (сапрана), якая вучылася ў Маскоўскай кансерваторыі, а зараз працягвае вучобу ў адным з лепшых музычных інстытутаў Філадэльфіі. Пад назвай «Успамін» змешчаны матэрыял, які расказвае аб Саюзе беларускай моладзі — патрыятычнай нацыянальнай беларускай арганізацыі, што існавала ў гады мінулай вайны.

У часопісе змястоўна асветлены таксама падзеі грамадскага і культурнага жыцця беларускай дыяспары ў ЗША, інфармацыя аб наведанні Бацькаўшчыны летам гэтага года групай амерыканскіх турыстаў беларускага паходжання. На заканчэнне адзначым, што пераважная большасць матэрыялаў згаданага нумара «Беларускай думкі» (як, дарэчы, і нумара папярэдняга) прасякнута сардэчным болем нашых замежных суродзічаў за Беларусь.

**Мар'ян ВІЖ.**

*Яраслаў МІЛЯШКЕВІЧ, кандыдат хімічных навук*
*Зміцер САНЬКО, кандыдат біялагічных навук*
*Аляксей ГЛУШКО*

Табліца 2

# НАЗОВЫ ХІМІЧНЫХ ЭЛЕМЕНТАЎ

*(Працяг. Пачатак у № 46.)*

| № | Сымболь назовы | Беларускія назовы | Расійскія назовы | Лацінскія назовы, на іншых мовах* |
|---|---|---|---|---|
| 1 | H | гідрагéн, вадарóд | водород | Hydrogenium (л..), hydrogen (ан.), hidrogene вадарод(фр.), воденъ (ук.) |
| 2 | He | гель | гелий | Helium (л., ан., ням., фр.), hel (пл.) |
| 3 | Li | літ | литий | Lithium (л., ан., ням., фр.), lit (пл.) |
| 4 | Be | бэрыль | бериллий | Beryllium (л., ан., ням., сл.), beryl (пл.) |
| 5 | B | бор | бор | Borum (л.), boron (ан.), bor (ням., пл., сл.), bore (фр.) |
| 6 | C | карбóн, вугаль | углерод | Carboneum (л.), carbon (ан.), carbone (фр.), uglik (чс., сл.), угленік (сб.-х.), вуглець (ук.), вугаль, вуглярод (бел.) |
| 7 | N | нітраген, азот | азот | Nitrogenium (л.), nitrogen (ан.), azot (ан.,пл.), azote (фр.), dusik (сл.) |
| 8 | O | аксыгéн, кіслярод | кислород | Oxygenium (л.), oxygen (ан.), oxygene (фр.), kyslik (сл.), кісень (ук.), tlen (пл.),тлён, кіслатвор (бел.) |
| 9 | F | флюор | фтор | Fluorum (л.), fluor (пл., сл., ням.), fluorine (ан.), флюор (ук.); флюёр (бел.) |
| 10 | Ne | нэон | неон | Neon (л., ан., ням., фр., сл.) |
| 11 | Na | натр | натрий | Natrium (л., ням.), sodium (ан., фр.), sod (пл.), sodik (сл.) |
| 12 | Mg | магнэз | магний | Magnesium (л., ан., ням., фр.), magnez (пл.), norcik (сл.) |
| 13 | Al | алюмін | алюминий | Aluminium (л., ан., ням., фр., пл.), glin (пл.), hlinik (чс., сл.), алюмін, глінец (бел.) |
| 14 | Si | сыліц, крэмень | кремний | Silicium (л., фр., ням., сл.), silikon (ан.), kremik (чс., сл.), силиций (ук., бал.), крэмень, сыліц (бел.) |
| 15 | P | фосфар | фосфор | Phosphorus (л., ан,), phospor (ням.), fosfor (пл.) |
| 16 | S | сульфур, серка | сера | Sulfur (л., ан.), soufre (фр.), siarka (пл.), sira (чс., сл.), сірка (ук.), серка (бел.) |
| 17 | Cl | хлёр | хлор | Chlorum (л.), chlorine (ан.), chlor (ням., фр., пл., сл.), хлёр (бел.) |
| 18 | Ar | аргон | аргон | Argon (л., ан., ням., фр.) |
| 19 | K | каль | калий | Kalium (л., ням., ан.), potasium (ан., фр.), potas (пл.) |
| 20 | Ca | кальц | кальций | Calcium (л., фр., ан.), kalzium (нам.), wapn (пл.), vapnik (чс., сл.), вапень (бел.) |
| 21 | Sc | сканд | скандий | Skandium (л., ан., ням., фр., сл.), skand (пл.) |
| 22 | Ti | тытан | титан | Titanum (л., ан.), titan (ням., сл., пл.), тытан (бел.) |
| 23 | V | ванад | ванадий | Vanadium (л., ан., фр.), vanadin (ням.), wanad (пл., сл.) |
| 24 | Cr | хром | хром | Chromium (л., ан.), chrom (пл., ням., сл.) |
| 25 | Mn | мангáн | марганец | Manganum (л.), manganese (ан., фр.), mangan (ням., пл., чс., сл.), манган (сб.-х., бел.) |
| 26 | Fe | фэ́рум, зялéза, жалéза | железо | Ferrum (л., ан.), fer (фр.), iron (ан.), želazo (пл.), zelezo (сл.), залізо (ук.), зялеза (бел.) |
| 27 | Co | кобальт | кобальт | Cobaltum (л., ням.), cobalt (ан., фр.), kobalt (ням., пл., сл.) |
| 28 | Ni | нікель | никель | Nikkolum (л.), nickel (ан., фр., ням.), nikill (пл., сл.) |
| 29 | Cu | кýпрум, медзь | медь | Cuprum (л., ан.), copper (ан.), miedz (пл.), kupfer (ням.), med (сл.), медзь (бел.) |
| 30 | Zn | цынк | цинк | Zincum (л.), zinc (ан., фр.), zink (ням.), cynk (пл.), zinok (сл.) |
| 31 | Ga | галь | галлий | Gallium (л., ан., ням., фр., сл.), gal (пл.) |
| 32 | Ge | гермáн | германий | Germanium (л., ан., ням., фр., сл.), german (пл.) |
| 33 | As | арсэ́нік, аршэ́нік | мышьяк | Arsenicum (л.), arsenic (ан., фр.), arzen (сл.), arsen (пл., ням.), арсен (ук.), аршэнік (бел.) |
| 34 | Se | сэлéн | селен | Selenium (л., ан., фр.), selen (ням., пл., сл.) |
| 35 | Br | бром | бром | Bromum (л.), bromine (ан.), brom (пл., ням., сл.) |
| 36 | Kr | крыптóн | криптон | Krypton (л., ан., ням., фр., сл.) |
| 37 | Rb | рубíд | рубидий | Rubidium (л., ан., ням., фр., сл.), rubid (пл.) |
| 38 | Sr | стронт | стронций | Strontium (л., ан., ням., фр., сл.), stront (пл.), стронт (бел.) |
| 39 | Y | ітр | иттрий | Yttrium (л., ан., ням., фр., сл.), itr (пл.) |
| 40 | Zr | цыркон | цирконий | Zirconium (л., ан., ням., фр., сл.), cyrkon (пл.) |
| 41 | Nb | нíоб | ниобий | Niobium (л., ан., фр.), niob (ням., пл., сл.) |
| 42 | Mo | малібдэ́н | молибден | Molybdenum (л., ан.), molybdan (ням.), molybdene (фр.), molybden (сл.) |
| 43 | Tc | тэхнэ́т | технеций | Technetum (л., ан., ням., фр., сл.), technet (пл.) |
| 44 | Ru | рутэ́н | рутений | Ruthenium (л., ан., фр., ням., сл.), ruten (пл.) |
| 45 | Rh | род | родий | Rhodium (л., ан., ням., фр., сл.), rod (пл.) |
| 46 | Pd | палáд | паладий | Palladium (л., ан., ням., фр., сл.), pallad (пл.) |
| 47 | Ag | аргéнт, серабрó, срэ́бра | серебро | Argentum (л., ан.), argent (фр.), silver (ан.), srebro (пл.), сребро (бал., сб.-х.), срібло (ук.), срэбра, серабро (бел.) |
| 48 | Cd | кадм | кадмий | Cadmium (ан., л., ням., фр., сл.), kadm (пл.) |
| 49 | In | інд | индий | Indium (л., ан., ням., фр., сл.), ind (пл.) |
| 50 | Sn | стáнум, цына | олово | Stannum (л., ням.), tin (ан.), zinn (ням.), cina (чс., сл.), cyna (пл.), цина (ук.), цына (бел.) |
| 51 | Sb | стыбіюм, антымóн | сурьма | Stibium (л., ан.), antimony (ан.), antimon (ням., чс., сл.), antymon (пл.), антимон, стибій (ук.), антымон (бел.) |
| 52 | Te | тэлюр | теллур | Tellurum (л., ан.), tellur (ням., пл., сл.) |
| 53 | I | ёд | йод | Iodum (л.), iod (ням., сл.), iode (пл.), ёд (бел.) |
| 54 | Xe | ксэнóн | ксенон | Xenon (л., ан., ням., фр., сл.) |
| 55 | Cs | цэз | цезий | Cesium (л., ан., ням., фр., сл.), cez (пл.) |
| 56 | Ba | бар | барий | Barium (л., ан., ням., фр., сл.), bar (пл.) |
| 57 | La | лянтáн | лантан | Lanthanum (л., ан.), lanthan (ням., фр., сл.), lantan (пл.), лянтан (бел.) |
| 58 | Ce | цэр | церий | Cerium (л., ан., фр.), cer (пл., ням., сл.) |
| 59 | Pr | празэадым | празеодим | Praseodymium (л., ан.), praseodym (ням., пл., сл.) |
| 60 | Nd | нэадым | неодим | Neodymium (л., ан.), neodym (ням., пл., сл.) |
| 61 | Pm | прамэ́т | прометий | Promethium (л., ан., ням., фр., сл.), promet (пл.) |
| 62 | Sm | самáр | самарий | Samarium (л., ан., ням., фр., сл.), samar (пл.) |
| 63 | Eu | эўрóп | европий | Europium (л., ан., ням., фр., сл.), europ (пл.), эўроп (бел.) |
| 64 | Gd | гадалін | гадолиний | Gadolinium (л., ан., ням., фр., сл.), gadolin (пл.) |
| 65 | Tb | тэрб | тербий | Terbium (л., ан., ням., фр., сл.), terb (пл.) |
| 66 | Dy | дыспрóз | диспрозий | Dysprosium (л., ан., ням., фр., сл.), dysproz (пл.) |
| 67 | Ho | гольм | гольмий | Holmium (л., ан., ням., фр., сл.), holm (пл.) |
| 68 | Er | эрб | эрбий | Erbium (л., ан., ням., фр., сл.), erb (пл.) |
| 69 | Tm | туль | тулий | Thulium (л., ан., ням., фр., сл.), tul (пл.) |
| 70 | Yb | ітэ́рб | иттербий, капроний | Ytterbium (л., ан., ням., фр., сл.), iterb (пл.), kapronium (ням.) |
| 71 | Lu | лютэ́т | лютеций, кассиопей | Lutetium (л., ан., ням., фр.), lutet (пл.), kassiopeium (ням.) |
| 72 | Hf | гафн | гафний | Hafnium (л., ан., ням., фр., сл.), hafn (пл.) |
| 73 | Ta | тантáль | тантал | Tantalum (л., ан.), tantal (пл., ням., сл.) |
| 74 | W | вальфрáм | вольфрам | Wolfrmium (л.), wolfram (ням., ан., пл., сл.), tungsten (ан.), вальфрам (бел.) |
| 75 | Re | рэн | рений | Rhenium (л., ан., ням., фр., сл.), ren (пл.) |
| 76 | Os | осм | осмий | Osmium (л., ан., ням., фр., сл.), osm (пл.) |
| 77 | Ir | ірыд | иридий | Iridium (л., ан., ням., фр., сл.), iryd (пл.) |
| 78 | Pt | плятын | платина | Platinum (л., ан.), platin (фр., ням.), platyna (пл., сл.) |
| 79 | Au | áўрум, зóлата | золото | Aurum (л., ан.), gold (ан., ням.), or (фр.), zloto (пл.), zlato (сл.), золото (ук.) |
| 80 | Hg | мэркýр, іртýць, жывасрэ́бра | ртуть | Mercurius, hidrargyrum (л.), mercury (ан.), mercure (фр.), quecksilber (ням.), rtec (пл.), zive srebro (пл.), ortuť (сл.), живе срібло, ртуть, меркурій (ук.), жывое срэбра, жывасрэбра (бел.) |
| 81 | Tl | таль | таллий | Thallium (л., ан., ням., фр., сл.), tal (пл.) |
| 82 | Pb | плюмбум, вóлава | свинец | Plumbum (л., ан.), plomb (фр.), lead (ан.), olow (пл.), olovo (чс., сл.), олово (ук.), волава (бел.) |
| 83 | Bi | бісмут | висмут | Bismuthum (л.), bismuth (ан., фр.), bismut (пл., сл.), бісмут (ук., бел.) |
| 84 | Po | палён | полоний | Polonium (л., ан., фр., ням., сл.), polon (пл.) |
| 85 | At | астáт | астат(ин) | Astatium (л.), astatine (ан.), astat (ням., пл., сл.), astate (фр.), alabamine (ан.) |
| 86 | Rh | радóн | радон | Radon (л., ан., ням., фр., пл.), niton (ан.) |
| 87 | Fr | франц | франций | Francium (л., ан., ням., фр., сл.), frans (пл.) |
| 88 | Ra | рад | радий | Radium (л., ан., ням., фр., сл.), rad (пл.) |
| 89 | Ac | актын | актиний | Actinium (л., ан., ням., фр., сл.), aktyn (пл.) |
| 90 | Th | тор | торий | Thorium (л., ан., ням., фр., сл.), tor (пл.) |
| 91 | Pa | пратактын | протактиний | Protactinium (л., ан., ням., фр., сл.), protaktyn (пл.) |
| 92 | U | уран | уран | Uranium (л., ан., фр.), uran(ням., пл., сл.) |
| 93 | Np | нэптýн | нептуний | Neptunium (л., ан., ням., фр., сл.), neptun (пл.) |
| 94 | Pu | плютóн | плутоний | Plutonium (л., ан., ням., фр., сл.), pluton (пл.) |
| 95 | Am | амэрыц | америций | Americium (л., ан., ням., фр., сл.), ameryk (пл.) |
| 96 | Cm | кюр | кюрий | Curium (л., ан., ням., фр., сл.), kiur (пл.) |
| 97 | Bk | бэ́ркель | берклий | Berkelium (л., ан., ням., фр., сл.), berkel (пл.) |
| 98 | Cf | каліфóрн | калифорний | Californium (л., ан., ням., фр., сл.), kaliforn (пл.) |
| 99 | Es | эйнштэ́йн | эйнштейний | Einsteinium (л., ан., ням., фр., сл.), einstein (пл.) |
| 100 | Fm | ферм | фермий, центурий | Fermium (л., ан., ням., фр., сл.), zenturium (ням.) |
| 101 | (Md)** | мэндэлёў | менделевий | Mendelevium (л., ан., ням., фр., сл.), mendelew (пл.) |
| 102 | (No)** | набэ́ль | нобелий | Nobelium (л., ан., ням., фр., сл.), nobel (пл.) |
| 103 | (Lr)** | ляўрэ́нц | лоуренсий | Lawrencium (л., ан., ням., фр., сл.) |
| 104 | Unq | унілквáд | курчатовий, уннилквадий | Kurchatovium (л., ан., ням., фр., сл.), unnilquadium (л.) |
| 105 | Unp | уніпэ́нт | нильсборий, уннилпентий | Nielsborium (л., ан., ням., фр., сл.), unnilpentium (л.) |
| 106 | Unh | унілгéкс | уннилгексий | Unnilhexium (л.) |
| 107 | Uns | унілсэ́пт | уннилсептий | Unnilseptium (л.) |
| 108 | Uno | унілóкт | уннилоктий | Unniloctium (л.) |

*) Скарачэнні назову мовы: л. — лаціна, ан. — англійская, ням. — нямецкая, фр. — французская, пл. — польская, сл. — славацкая, чс. — чэшская, бал. — балгарская, сб.-х- — серба-харвацкая, ук. — украінская, бел. — беларуская дарэформеннага перыяду.
**) Назва і сымболь элемента, пазначанага ў дужках, канчаткова не прынятыя IUPAC.

*(Заканчэнне будзе.)*



# Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску

*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

*Германа Гесэ большасць нашых чытачоў ведае як прызнанага майстра філасофскай прозы. Між тым, Гесэ (1877—1962) стварыў шэраг лірычных шэдэўраў, адметных і сваёй моўнай вытанчанасцю, і глыбокай філасафічнасцю, што зрабіла яго адным з самых цікавых паэтаў не толькі яго роднай Швейцарыі, але і ўсёй нямецкамоўнай часткі Еўропы.*

*Герман ГЕСЭ*

## Прыступкі

Любая кветка вяне; саступае
І старасць месца юнаму запалу,
І мудрасць з часам гэтак адцвітае,
Нішто не вечна, здоўжыцца памалу.
Павінна быць гатовым наша сэрца
Перарадзіцца, новы даць пачатак
Спалукам іншым, формам, месцам,
Ахвяравацца ў іншы распарадак.
У кожным пачынанні тайнасць тая,
Што нашае жыццё абараняе.

Прыступкамі ўгару павінны йсці мы
І не прывязвацца, як да радзімы.
Дух свету хай не звузіць нам прастору,
Няхай узносіць паэтапна ўгору.
Вось толькі мы ў адной зжыліся сферы,
Ужо лянотнасць наша на парозе,
І толькі той, хто вечна у дарозе,
Перамагае звыкласці хімеры.

Магчыма, што смяротнае прычасце —
Прыступка толькі новага жытла,
Не скончыцца жыццё часовым шчасцем...
Бывай жа, сэрца! Ў адраджэнне з тла!

## Служэнне

Калісьці на пачатку новай эры
Валадарам свае правы здаў люд —
Спраўляць абрад ахвярны, правіць суд
І захаваць у родзе непарушнасць меры
У ладзе з іншай мераю, якая
Заўсёды яркае жыццё свяціл
На небе у гармоніі трымае,
У раўнавазе неўміручых сіл.
Але даўно ўжо Божы той парадак
Зламаўся і знябыўся мераў свет,
І чалавек адкінуў запавет,
Жыве без святасці, ў нязгодзе з ладам,
Ды не памерла вера ў святасць свету
І нам даручана, праправаўшы заняпад
Праз гульні знакаў, аднавіць той лад
І перадаць далей святыню гэту.
Магчыма, змрок рассеецца дазвання,
І вернецца закон былых эпох,
І закіруе Сонца, быццам Бог,
І прыме з нашых рук ахвяраванне.

Пераклад з нямецкай Васіля СЁМУХІ.

*СТВОРЫМ ГІМН БЕЛАРУСІ РАЗАМ*

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!**
**2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.**
**3. Сімвал свабоды — Сцяг Беларусі,**
**4. Бела-чырвона-белы наш Сцяг.**

**5. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**6. Бог захавае Белую Русь.**
**7. Наша адданасць — Вольнай Радзіме.**
**8. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**9. Праца народа моц і свабоду —**
**10. Годнасць гартуе з году ў год...**
**11. Веліч Радзімы — мужнасць народа,**
**12. Люд Беларусі — слаўны народ.**

**13. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**14. Бог захавае Белую Русь.**
**15. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**16. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны,**
**18. Рэкі павольныя, светлыя тут.**
**19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны...**
**20. Цешце, нашчадкі, родны наш кут!**

**21. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**22. Бог захавае Белую Русь.**
**23. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**24. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**Ад рэдакцыі.** Паўтараем тэкст верша У. Жыгалкі, які ён прапанаваў дапрацаваць грамадою, каб такім чынам стварыць Гімн Беларусі. Радкі вырашана пранумараваць дзеля зручнасці спасылкі на іх у далейшым. Напамінаем: кожны, хто бярэ ўдзел у дапрацоўцы тэксту, можа ў межах агульнай задумы верша дасылаць уласныя варыянты радкоў ці асобных слоў, а таксама падтрымліваць альбо крытыкаваць заўвагу і варыянты іншых удзельнікаў сумеснай працы над тэкстам. Публікуючы іх, мы ўстрымліваемся ад рэдакцыйных каментараў. Дапрацоўка тэксту У.Жыгалкі па просьбе чытачоў працягнута да канца года. Чакаем вашых лістоў, шаноўныя чытачы!

## Трэба не песня, а Гімн дзяржавы

Гімн нам вельмі патрэбны сёння, а не калі-небудзь пад нейчы настрой. Без палітыкі, без шантажу і абраз іншых народаў і нацый, але годны. І каб было адразу бачна — хто мы і да чаго імкнёмся.

Лічу, што дадзены тэкст — самы лепшы з тых, якія былі раней прапанаваныя ў якасці дзяржаўнага Гімна. Дарэчы, тэкст Гімна ўвогуле павінен быць не болей аднаго чатырохрадкоўніка, інакш гэта ўжо не Гімн дзяржавы, а песня пра яе. Таму неабходна выключыць пункты 5—8 і 13—16, пасля чаго тэкст можна прымаць у якасці Гімна дэмакратычнай дзяржавы Беларусь.

**Я.ТАЛПЫГА,пенсіянер, былы інжынер-будаўнік.**
г.Гродна.

**Заўвага:** арыгінал ліста дасланы ў рэдакцыю на рускай мове.

* * *

**Шаноўная рэдакцыя, я вельмі ўдзячны вам за надрукаваныя радкі, але ўзятыя з другога верша восем радкоў не зусім добра стасуюцца ў Гімн. Я перапрацаваў гэтыя 8 радкоў і бачу Гімн у наступным выглядзе:**

Свабодныя людзі, Радзіму падымем,
Адзіны да шчасця выберам шлях.
Над гербам «Пагоні» высока ўздымем
Наш бела-чырвона-белы сцяг!
Народ гераічны, народ працавіты
Дружна з суседзямі хоча ён жыць.
Славай вялікіх сыноў знакамітых
Будзе заўжды даражыць!

Мы слаўнай вялікай дзяржавы нашчадкі,
У якой гаспадарыў літвін-беларус.
Самыя лепшыя ў свеце парадкі
Заклала ў законы тады Беларусь.
Чорных мінулі гады ліхалеццяў,
З вуголля, як фенікс, падняўся народ.
Жадаем краіне сваёй даўгалецця!
Стаць вольнай і моцнай настаў ёй чарод.

Мы сёння папоўнімся новаю сілай,
Дамо адраджэнню шырокі размах.
Няхай у краіне любімай і мілай,
Ліхое і злое усё — церпіць крах!
І кожны свой дзень, сустракаючы сонца,
За Маці-Радзіму я Богу малюсь.
Шчаслівым хай будзе лёс твой бясконца
Жыві, святая Беларусь!

**Віталь МАКАРЧЫК.**
г.Навагрудак.

## У першую чаргу будзем спадзявацца на сябе

**Паважаная рэдакцыя! На вялікі жаль, аб ідэі стварэння грамадою Гімна Беларусі я даведаўся толькі з № 41 (доўгі час не быў дома). Але ж яшчэ ёсць магчымасць далучыцца да гэтай справы.**

**Вось мой варыянт:**

1. Мы, беларусы, вольныя людзі
2. Вольнымі будзем жыць у вяках
3. Хай акрыляе нас сімвал Радзімы —
4. Бел-чырвона-белы мужнасці сцяг.

Прыпеў:
5. Люд Беларусі, Народ Беларусі,
6. Годнасць сваю зразумей,
7. Сімвал волі — Сцяг Беларусі
8. Захаваць для нашчадкаў сумей.

9. Выйшаў народ наш з мужнай кагорты
10. У бітве Грунвальдскай свой гонар набыў.
11. Падаў за волю трэці, чацвёрты —
12. Пакуль свабоду сваю не здабыў.

Прыпеў 13—16 (5—8).

17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны
18. Рэкі павольныя, ціхія тут,
19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны
20. Людзі, любіце ж родны наш кут.

Прыпеў 21—24 (5—8).

25. Працаю дружнай мір дзе і згода
26. Светлага заўтра сустрэнем усход
27. І сярод розных краін і народаў
28. Заможна жыві, беларускі народ.

Прыпеў 29—32 (5—8).

**А цяпер мае меркаванні за прапанаваны варыянт.**

**Варыянт прыпеву з верша У.Жыгалкі я цалкам адхіляю. Па-першае, з-за спалучэння Белая Русь. Забывацца ці рабіць выгляд, што не існуе арганізацыі з гэтай назвай з яе варожасцю і да сцяга і да герба Беларусі, нельга. А абараняць патрэбай рыфмы гэта зусім несур'ёзна.**

**Па-другое, выраз «Бог захавае» (я зусім не супраць Бога). Атрымліваецца, што мы спадзяёмся або на «старэйшага» брата, або на Бога.**

**Па-трэцяе, я лічу, што Гімн павінен не толькі канстатаваць, ухваляць, але і заклікаць, бараніць, любіць сваю Радзіму, Бацькаўшчыну.**

**І вось таму я прапаную свой варыянт прыпеву.**

**Нязначныя, але патрэбныя (вядома ж, на маю думку) змены ў куплетах У.Жыгалкі і М.Наско (радкі 1, 2, 3, 20, 27, 28), я спадзяюся, ніхто аспрэчваць не будзе. Лічу, што яны толькі паляпшаюць тэкст.**

Алесь КРЭМЕНЬ.
г.Скідаль, Гродзеншчына.

*ЧЫТАЛІ?*

# Багаты на адкрыцці нумар

**«Спадчына» ў чацвёртым сваім нумары традыцыйна прадстаўляе аматару гістарычнага чытання нямала адкрыццяў. Так, часопіс вяртае з забыцця многія невядомыя нашым сучаснікам дакументы, друкуе здымкі, якія раней хаваліся ў архівах ведамстваў, нават на парог якіх дзесяцігоддзямі людзі баяліся ступіць.**

**Адкрываецца нумар артыкулам Ігара Кузняцова «Ёсць у Сібіры свой Беласток...» Вучоны расказвае пра сфабрыкаваную справу «Вольнай арганізацыі вайсковай» — адной з найбольш масавых знішчальных аперацый НКУС, у выніку якой былі ажыццёўлены адкрыты генацыд над адной сібірскай вёскай з назвай Беласток.**

**Завяршаецца публікацыя «сучаснай казкай» Вінцука Адважнага «Князь і лапаць». Адзначым, што «Спадчына» з зайздросным пастаянствам вяртае на Бацькаўшчыну нашу эміграцыйную літаратуру. Тады як астатнія выданні робяць гэта ад выпадку да выпадку.**

**Традыцыйны мемуарны раздзел часопіса знаёміць з «Дыярыушам» Міхаіла Казіміра Радзівіла. Унікніце ў гэтыя старонкі — і вас чакае захапляючае падарожжа ў пачатак васемнаццатага стагоддзя. Вобразнасці і асацыятыўнасці ўспрымання вельмі дапамагаюць шматлікія ілюстрацыі, якімі рэдакцыя аздобіла матэрыял. А каб лягчэй было разабрацца ў старой тэрміналогіі, каб можна было адкрыць сэнс пэўных архаізмаў — дзеля гэтага пададзены тлумачальны слоўнік.**

**У чацвёртым нумары працягваецца публікацыя цікавага манаграфічнага даследавання Анатоля Грыцкевіча «Гісторыя геапалітыкі Беларусі».**

**Сярод публікацый нумара — і «Беларускі падручнік палітэлегіі 1931 г.» — папулярны нарыс паліталогіі, ілюстраваны прыкладамі заходнебеларускага палітычнага жыцця, выдадзены ў Вільні ў 1931 годзе. Тады апекаваліся згаданай справай маладыя дэмакратычныя дзеячы цэнтрысцкай арыентацыі, згуртаваныя вакол папулярнага часопіса «Шлях моладзі». Шкада, што публікацыя пададзена без усялякага фактычнага каментарыя. Чаму б, напрыклад, не назваць асоб, якія ажыццявілі выданне, чаму б не расказаць пра акалічнасці выдання паліталагічнага падручніка?**

**Часопісам вяртаецца (у перакладзе з украінскай мовы) ладная падборка публіцыстычнай спадчыны Сымона Пятлюры. Ізноў жа публікацыі (ажыццявіў яе Сяргей Сматрычэнка) бракуе каментарыяў. Магчыма «Спадчына» наўмысна не дае іх, разлічваючы, што да публікацый звернуцца выключна дасведчаныя гісторыкі, здольныя ў многім разабрацца самі. Але як жа тады шырокае кола чытачоў, якія толькі цягнуцца да гістарычнай адукацыі?**

**Працягам знаёмства з палітычнай гісторыяй Беларусі ў чацвёртым нумары «Спадчыны» стала друкаванне ўспамінаў Васіля Рагулі. Хто ж ён такі ? Васіль Рагуля (1879—1955) — беларускі дзеяч, настаўнік, дэлегат І Усебеларускага кангрэса. Ад беларусаў быў абраны ў польскі Сейм і Сенат. У 1939 г. зняволены саветамі. Пасля вайны ў эміграцыі. У прадмове да «Успамінаў» Васіль Рагуля пакінуў і такія словы: «Я буду шчаслівы, калі напісанае мною ўсцеражэ нашых сучасных і будучых палітычных і грамадскіх дзеячоў ад паўтарэння памылак іх бацькоў».**

**З мемуарнай літаратуры — таксама працяг публікацыі ўспамінаў Язэпа Малецкага «Пад знакам «Пагоні».**

**Па традыцыі часопіс багата ілюстраваны, што, вядома, павінна спрыяць самаму шырокаму выкарыстанню «Спадчыны» на школьных уроках гісторыі.**

**Ганна ЦІТАЎКА.**

## *Дарагія суайчыннікі!*

***Мы вельмі ўдзячныя вам за тую падтрымку, якую вы аказваеце, выпісваючы «Наша слова», прысылаючы зацікаўленыя лісты, а таксама ахвяраванні на нашае выданне. Спадзяёмся, што і ў наступным годзе вы застанецеся з намі. Мы ж зробім усё, што ад нас залежыць, каб газета была цікавая, інфарматыўная, каб яна і надалей была сцягам адраджэння нашае мовы.***

***Але матэрыяльныя ўмовы, у якіх працуе рэдакцыя, вельмі неспрыяльныя. Спадзявацца на нейкае паляпшэнне, чакаць дапамогі ад дзяржавы — марная справа. Наадварот, можа быць скасаваная нават тая дапамога, якую маем сёння. Не валодаючы тэхнікай для вырабу арыгінал-макетаў, мы змушаны хадзіць на паклон у розныя іншыя арганізацыі. Такое становішча вымагае вялікіх фінансавых затрат, часта ставіць пад пагрозу выпуск чарговых нумароў, выклікае нервознасць у калектыве, а ў недалёкай перспектыве разам з іншымі абставінамі можа паставіць пад пытанне само існаванне газеты «Наша слова».***

***Усё гэта вымушае нас звярнуцца да вас з просьбаю дапамагчы набыць гэтак неабходную нам настольную выдавецкую сістэму. Ахвяраванні просім прысылаць на разліковы рахунак Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны: р/р 700510 код 764 Гардырэкцыя Белбізнесбанка г.Менска з пазнакай «Для газеты «Наша слова».***

***Будзе жыць «Наша слова» — будзе жыць і Таварыства беларускай мовы!***

***Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.***

### *ТРАДЫЦЫІ І СУЧАСНАСЦЬ*



Помнікі архітэктуры XIX стагоддзя. **Фота БЕЛІНФАРМа.**

### І СМЕХ І ГРЭХ

*Мація БЕЧКАВІЧ*

## (ПРА) АДСТАЛАСЦЬ

Адсталасць у наш час робіцца нейкай модаю. Модна і выгадна быць адсталымі... Цывілізаваныя з зайздрасцю глядзяць на адсталых. Адсталая сталі нось-бітамі прагрэсу, яны ўвасабляюць здароўе, авангард.

З адсталасці немагчыма назад. Можна толькі наперад. Сёння толькі адсталасць можа крочыць вялікімі крокамі.

Толькі ў адсталых ёсць будучыня.

Толькі галодныя маюць яшчэ надзею стаць сытымі. Сытыя ўжо сытыя.

Гэтаксама як абдзёртыя сны бачаць лепшыя за добра прыбраных, толькі зняволеныя могуць сніць волю.

Таму перавага адсталых ляжыць на трывалым грунце. Іхняя будучыня акрэсліваецца досыць выразна. Яе выкраіць з гістарычнага вопыту цывілізаваных. Няма прычын паўтараць відавочныя памылкі і глупствы.

Галодныя і босыя, поўныя мараў, надзей і сіл, адсталыя будуць яшчэ перажываць настальгічныя моманты цудоўнай мінуўшчыны. Найлепшыя згадкі павінны быць іхняй рэальнасцю.

Іхняму асяроддзю без патрэбы навуковая фантастыка. Яно марыць пра віdэльцы, колы, прасы, першыя газеты, адкрыццё фатаграфіі, радыё і тэлебачання.

Яны прагнуць нашай сытасці. Хіба ж гэта не дзівосная натхнёнасць, не велічная прага, не ўхвальная цікаўнасць?!

Шчасце адсталым і гора ўсім астатнім, хто падобнага не перажывае!

Гэта шчасце, што ёсць яшчэ тыя, якія прагнуць праўды, волі, роўнасці! Толькі ў іх ёсць дзеля чаго жыць і памерці. Толькі яны будуць яшчэ адважнымі, высакароднымі, паважанымі. Толькі ў іх знойдуцца свае сапраўдныя паэты! Навучаныя вопытам ужо сытых і цывілізаваных, яны ўздымуць вялікія рэвалюцыі і распачнуць эфектныя войны.

Іхні Напалеон будзе большы. Іхні Аляксандр Македонскі пражыве даўжэй. Іхні Брут не заб'е Цэзара.

Гора тым, хто ўжо дасягнуў мэты. Ім няма да чаго імкнуцца. Здзейсніўшы мары, цяжка знайсці, пра што далей марыць. Вольныя будуць плесняю пакрывацца ў нязменнасці волі. Сытыя шчасцем, яны павернуцца да няшчасцяў.

Так, пакуль ідэалам прымітыўных застаецца дабро, эмансіпаваныя атупела шукаюць змен у ліху.

Цывілізаваныя папаўняюць свае могілкі самазабойцамі, адсталыя — галоднымі.

Сытыя хацелі б дакрычацца да галодных, што не ў сытасці шчасце, але іх галодныя не чуюць. Хораша адзетыя скідаюць адзенне і становяцца нудыстамі, а голыя крадуць іхнія шаты, бо ім холадна і хочацца выглядаць па-людску.

Адсталыя кожны кавалак хлеба адзначаюць як падзею, кожны пражыты дзень лічаць крокам да лепшага.

Цывілізаваныя глядзяць на адсталых, карыстаючыся вялікімі і малымі экранамі, і ніяк не могуць надзівавацца з той цярплівасці, што нікуды не вядзе. Яны каюцца за сваю цікаўнасць і нецярплівасць, ахвотна б з разраду гледачоў перайшлі на поле, каб самім удзел узяць у гульні. Між тым, позна. Усе толькі адзін раз праходзяць свой шлях. Немагчыма вярнуцца назад, каб штосьці выправіць. Можна толькі наперад, а гэта зробяць адсталыя.

Давайце ладзіць з адсталымі. Можа яны падзеляцца з намі, і нам перападзе хоць крыху іхняга голаду, хоць глыток іхняй прагі.

*Пераклаў з сербскахарвацкай мовы Іван ЧАРОТА.*

## Пачутае «У Лявона»

* * *

П'яны заяц лёг на мяжу і заснуў. Згледзелі яго два ваўкі і пачалі спрачацца, каторы мае яго з'есці, пасля пабіліся і пазабіваліся насмерць.

Прачнуўся заяц і бачыць нежывых ваўкоў:

— Няхай ліха возьме гэтую гарэлку, з-за яе калісьці цэлы лес развалю.

* * *

Леў склікаў сход звяроў. Жаба, якая сядзела ў першым радзе, паўтарала кожнае яго слова:

— Сабраліся мы сюды, каб абмеркаваць...

— Сабраліся мы сюды, каб абмеркаваць...

— усе справы, звязаныя з нашай дзейнасцю...

— усе справы, звязаныя з нашай дзейнасцю...

— Няхай хтосьці забярэ адсюль гэтае зялёнае паскудства! — не вытрымаў у канцы леў.

На гэта жаба:

— Забярыце адсюль кракадзіла!..

* * *

Мікалай, які любіў здорава выпіць, меў папугая, таксама п'яніцу, і яны часта сварыліся. Аднойчы Мікалай сказаў папугаю:

— Калі яшчэ раз вып'еш маю гарэлку, то ўсё пер'е з хваста павырываю!

Вярнуўшыся з працы, пабачыў, што бутэлька ўжо пустая, а папугай пачынае вырываць сабе пёры, гаворачы:

— Навошта яны мне патрэбныя?..

* * *

Ідзе заяц лесам і бачыць у кустах бутэльку гарэлкі.

— О! Бутэлька гарэлкі! — усцешыўся, узяў яе і пайшоў далей.

Убачыла яго лісіца:

— О! Бутэлька гарэлкі і закуска! — узрадавалася і пабегла за ім.

Убачыў іх воўк:

— О! Бутэлька гарэлкі, закуска і рудая любоўніца!

Пабег за імі.

Убачыў іх са сваёй бярлогі мядзведзь:

— О! Бутэлька гарэлкі, закуска, рудая любоўніца ды і ёсць яшчэ каго пабіць...

* * *

На беразе Ніла сустракаюцца два кракадзілы:

— Як прайшло сённяшняе паляванне?

— З'еў трох неграў. А ты?

— З'еў аднаго савета.

— Не веру. Хухні!..



### *Пародыі*

*Вінцук АСЬЦЮК*

## Жаданні ёсць!

*Цямнее зрок,*
*слабее слых,*
*і сіла ўжо не тая...*
*«Ці ёсць жаданні у старых?»*
*Жаданні ёсць!*
*Жаданняў шмат...*

**Хведар ЖЫЧКА**

Цямнее зрок,
слабее слых,
і сіла ўжо не тая...
Але жанчынак маладых
Яшчэ хачу бывае.

На святы п'ю ўжо толькі квас,
І мерзну без валёнак...
Але вінца яшчэ, падчас,
Хачу, як маладзёнак.

Усё часцей, як сноп, ляжу,
Часопісы гартаю...
Але паехаць за мяжу
Хачу аж завываю.

— Ці ёсць жаданні у старых? —
Суседка зноў пытае.
Як застанёмся мы ўдваіх,
Адказ мой атрымае!

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 47

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 7223 паасобнікі.
Падпісана ў друк 21.11.1994 г.
у 15 гадзін.